*Міжнародная камісія патрабуе спыніць крымінальны пераслед кіраўнікоў фонду «Дзецям Чарнобыля» (стар. 2) Восень 1917-га вачыма «Вольнай Беларусі» (стар. 5-6)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар
Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя
газеты СВАБОДА
Наклад 90.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Пятніца, 14 лістапада 1997 г. № 126 Кошт свабодны

## Бельгійцу далі 8 гадоў

**Пазаўчора ў Кобрыне завяршыўся судовы працэс над грамадзянінам Бельгіі Вілі Солье, які прызнаны вінаватым у пагібелі дзяцей летам гэтага года ў Кобрынскім раёне. Прысуд — 8 гадоў пазбаўлення волі.**

Нагадаем, што сёлета 1 ліпеня двухпавярховы аўтобус *Neoplan*, як вёз дзяцей з Рэчыцкага раёна на аздараўленне ў Бельгію, перакуліўся на шашы побач з Кобрынам. У выніку катастрофы чацвёра дзяцей загінула, а больш за 60 — атрымалі траўмы і раненні.

Суддзя Аляксандр Марчук, які вёў працэс, прызнаў 57-гадовага вадзіцеля Вілі Солье вінаватым у перавышэнні хуткасці (экспертыза ўстанавіла, што аўтобус ішоў па мокрай дарозе з хуткасцю 94 км у гадзіну) і ў неасцярожнасці пры кіраванні аўтобусам. Мера пакарання — 8 гадоў зняволення, пракурор першапачаткова прасіў дзесяць. Сам В.Солье толькі часткова прызнаў сваю віну. Цяпер наступныя восем гадоў ён мусіць правесці ў спецыяльнай калоніі-пасяленні ў Магілёўскай вобласці, разам з іншымі зняволенымі, якія ўчынілі злачынствы па неасцярожнасці.

Бацькі загінуўшых дзяцей прад'явілі іскі да вадзіцеля па 50 тысячаў долараў за кожнага загінуўшага, аднак па беларускіх законах грошы можна спагнаць толькі з бельгійскай фірмы *Epalsior Travel Company*, якую вадзіцель прадстаўляў. Але паміж Беларуссю і Бельгіяй няма дамоўленасці аб узаемным прававым супрацоўніцтве, і таму грошы спагнаць не ўдалося.

Тым не менш, бельгійская страхавая кампанія выплаціла 80 тысяч долараў кампенсацыі сем'ям загінуўшых і пацярпелых: па 7000 долараў за кожнага загінуўшага, 4000 долараў хлопчыку, які моцна пацярпеў, па 2500 — 10 дзецям з траўмамі сярэдняй цяжкасці і па 500-600 долараў — астатнім, хто пацярпеў нязначна.

Суддзя А.Марчук лічыць, што прыгавор «нармальны» і цалкам адпавядае цяжкасці ўчыненага злачынства. На думку суддзі, калі ўсё будзе добра, то Вілі Солье ўжо праз два-тры гады можа быць датэрмінова вызвалены.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Медінстытут пагражалі ўзарваць

**10 тысяч долараў запатрабаваў па тэлефоне невядомы мужчына, пагражаючы ўзарваць навучальны корпус №4 Гомельскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута.**

Тэлефонны званок прагучаў 10 лістапада а 19-й гадзіне, і супрацоўнікі асобнага батальёна патрульна-паставой службы, якія прыбылі праз некалькі хвілін, эвакуіравалі адзіную ў гэты позні час групу з 15-ці студэнтаў. Пры абследаванні памяшканняў ніякага выбуховага прыстасавання не знайшлі.

Па гэтым факце вядзецца следства. Пакуль інцыдэнт кваліфікуецца як хуліганства, аднак у рэчышчы прэзідэнцкага дэкрэта аб барацьбе з тэрарызмам да яго расследавання падключылася і ўпраўленне КДБ па Гомельскай вобласці.

*БелаПАН*

## Кралі гуму, кралі шыны

**Праваахоўныя органы Бабруйска затрымалі групу работнікаў камбіната «Белшына», якія падазраюцца ў крадзяжы сыравіны і гатовай прадукцыі на прадпрыемстве.**

Як сцвярджае міліцыя, дзейнасць групы, куды ўваходзілі інжынерна-тэхнічныя работнікі і рабочыя камбіната, насіла арганізаваны характар. Днямі раскрадальнікаў затрымалі пры спробе крадзяжу натуральнага каўчуку на суму 300 мільёнаў рублёў. Ім пагражае пакаранне ад 8 да 15 гадоў пазбаўлення волі.

*БелаПАН*

## На мяжы лес сякуць

У Гродзенскай вобласці ўздоўж усёй мяжы з Літвой у зарослых лесам мясцовасцях пачалося стварэнне прасекі шырынёй 5 м. Дрэвы высякуць рабочыя з мясцовых лясніцтваў.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ**

## Золата ў сметніцы

На чыгуначнай станцыі Гудагай у цягніку Вільня—Масква пámежнікі знайшлі кантрабанднае золата. У адным з вагонаў у скрыні са смеццем былі схаваныя пярсцёнкі, бранзалеты і ланцужкі агульнай вагою больш 1,5 кг. Ніхто з пасажыраў не прызнаўся, залатыя вырабы аказаліся «нічыйнымі».

**М.В.**

## Вертыкаль і БПСМ – на лён!

У Астравецкім раёне не ўсе калгасы паспелі ўбраць лён да першага снегу. Снег на палетках праляжаў некалькі дзён. На гэтым тыдні ў калгасе імя Калініна збіраць лён вымушаныя былі разам з калгаснікамі супрацоўнікі райвыканкама і райкама БПСМ.

**Ірына АНДРЭЕВА**

# Міністра і героя звязалі адным ланцугом

**Беларусь патрэсла новая сенсацыя: у аўторак арыштавалі міністра сельскай гаспадаркі Васіля Лявонава і двойчы героя сацыялістычнай працы Васіля Старавойтава. Абодва яны ўтрымліваюцца цяпер у мінскай турме КДБ.**



*На здымку (з архіва СВАБОДЫ): міністр В.Лявонаў і старшыня В.Старавойтаў.*

Абвінавачанне ім пакуль не прад'яўлена, але ўлады ўжо афіцыйна абвясцілі, што затрыманыя падазраюцца ў крадзяжы маёмасці. Само сабой зразумела — у буйных памерах. Васілю Лявонаву «шыюць» таксама карупцыю, заяўляючы, што ён выкарыстоўваў сваю высокую пасаду ў карыслівых мэтах. Як вынікае з паведамлення прэс-службы Савета бяспекі, арышт міністра сельскай гаспадаркі напрамую звязаны з расследаваннем справы АТ «Рассвет».

Падобна на тое, што ўлады баяліся, каб звесткі з Мышкавічаў не спугнулі міністра і, наадварот, каб дрэнная навіна з Мінска не падштурхнула старшыню «Рассвета» да нейкага надзвычайнага кроку. На такую думку наводзіць відавочная сінхроннасць у дзеяннях брыгадаў па арышце Старавойтава і Лявонава. Так, да абеда ў аўторак вакол цэнтральнай сядзібы «Рассвета» былі выстаўленыя міліцэйскія патрулі на машынах. Сам жа двойчы герой з раніцы не адчуваў небяспекі, аб чым сведчыць хаця б той факт, што ён даволі спакойна даваў інтэрв'ю па тэлефоне (у прыватнасці мне). Між тым міліцыя ўжо рыхтавала для яго пастку. Як стала вядома пазней, у дзве гадзіны дня Старавойтаву патэлефанаваў следчы Марозаў, які запрасіў былога старшыню «Рассвета» для размовы ў кантору гаспадаркі. Старавойтаў спачатку ставіў у якасці ўмовы прысутнасць свайго адваката Ярчака, але потым пагадзіўся прыйсці адзін у кантору. Там яму і прад'явілі пастанову аб арышце. З Мышкавічаў Старавойтава павезлі ў Мінск прыкладна ў шэсць гадзінаў вечара. Літаральна ў гэты час прыйшлі супрацоўнікі КДБ у кабінет Васіля Лявонава. Тое, як затрымлівалі міністра, уся краіна ўбачыла ўжо ў вячэрнім выпуску навінаў. Факт сам па сабе для БТ выключны, які сведчыць аб жаданні ўладаў надаць арышту міністра прапагандысцкі характар.

Аднак у чым канкрэтна падазраюцца арыштаваныя кіраўнікі? Пакуль афіцыйна іх віна не расшыфроўваецца, але ў набліжаныя да ўлады СМІ ўжо прасачылася інфармацыя (выпадкова ці не?), згодна з якой асноўнай прычынай арышту стаў крэдыт, атрыманы «Рассветам» з дапамогай міністра сельскай гаспадаркі. Гаворка ідзе аб 30 мільярдах рублёў бюджэтных сродкаў, на якія летась «Рассвет» планаваў закупіць кармы для жывёлы. Грошы былі «Рассветам» атрыманыя і пераведзеныя ў замежны банк. Здзелка па невядомых прычынах сарвалася, і праз тры месяцы крэдыт вярнуўся ў бюджэт. Аднак, па версіі, якая зараз распаўсюджваецца, даход па працэнтах за гэты крэдыт склаў бы 2,7 мільярда рублёў. Гэта і ёсць тая сума, на якую быццам бы «аблапошылі» дзяржаву Старавойтаў з Лявонавым.

Сам Васіль Старавойтаў яшчэ да арышту неаднаразова заяўляў, што «ў яго ўсё чыста», у тым ліку і ў банкаўскіх справах. Гэта сцвярджае і дачка Старавойтава Наталля Кавальчук, якая яшчэ месяц таму ўзначальвала банк «Рассвета». Па яе словах, усе аперацыі з выкарыстаннем гэтага няшчаснага крэдыту праходзілі законна. «На 30 мільярдаў была закуплена валюта, якую пераявілі ў адзін польскі банк і паклалі на спецыяльны акрэдытыў, звязаны непасрэдна з кантрактам. Паколькі збожжа, на якое разлічвалі, у Беларусь не паступіла, грошы ў тым жа доларавым эквіваленце вярнуліся ў бюджэт. Любы банкаўскі спецыяліст пацвердзіць, што з акрэдытываў узяць хаця б частку сродкаў немагчыма. Абвінавачванне, якое распаўсюджваюць следчыя, разлічана на некампетэнтных людзей», — заяўляе Наталля Кавальчук.

З большага складваецца ўражанне, што гісторыю з крэдытам выцягнулі выпадкова. Магчыма толькі таму, што яна першай трапіла пад руку следчым. Далей, як было з Тамарай Віннікавай, могуць з'яўляцца ўсё новыя і новыя абвінавачванні самага неверагоднага кшталту. 73-гадоваму Старавойтаву, напрыклад, могуць паспрабаваць прышыць нават згвалтаванне — па звестках, следчыя ўжо займаюцца «адпрацоўкай» гэтай версіі з мясцовымі кабетамі. Любыя сюрпрызы могуць чакаць таксама 59-гадовага Васіля Лявонава, чыя працоўная біяграфія была насычаная самымі рознымі пасадамі і падзеямі.

Нагадаем, што ў апошнія савецкія часы ён кіраваў Магілёўскім абкамам партыі і такім чынам быў самым галоўным мясцовым начальнікам для былога дырэктара саўгаса «Гарадзец» А.Лукашэнкі. У часы прэм'ерства Кебіча Лявонаў узначальваў гандлёвае прадстаўніцтва ў Нямеччыне і нібыта аказваў дапамогу кандыдату ў прэзідэнты А.Лукашэнку. Пасаду міністра сельскай гаспадаркі Васіль Лявонаў атрымаў ужо з рук прэзідэнта Лукашэнкі, свайго вучня і пратэжэ.

Між тым, нягледзячы на набліжанасць да прэзідэнта, адносіны з ім у Лявонава маглі складвацца не без праблемаў. Дасведчаныя людзі сцвярджаюць, што нядаўна міністр напісаў на імя прэзідэнта дакладную запіску, у якой выклаў сваё бачанне развіцця сельскай гаспадаркі краіны, супярэчлівае з пунктам гледжання Лукашэнкі. Кажуць, нібыта Лявонаў нават выказаў жаданне пайсці ў адстаўку, калі ягоная праграма рэфармавання вёскі не будзе прынята. Таму не выключана, што прэзідэнт вырашыў апярэдзіць свайго былога сябра і лідэра наймагутнейшага ў краіне аграрнага лобі Васіля Лявонава, кінуўшы яго «на нары». Лепшы сябра Лукашэнкі, як вядома з вопыту апошніх гадоў, гэта сябра, які сядзіць у «амерыканцы».

Па словах жа самога Лукашэнкі, ён два тыдні трымаў у сябе на стале паперы з доказамі віны Лявонава, пакуль рашыўся даць згоду на ягонае затрыманне. Гэтыя два тыдні, аднак, могуць быць такім жа міфам, як і нядаўняя заява Лукашэнкі аб тым, што ў ахове Біла Клінтана 500 аўтамабіляў.

Вечарам у сераду 15 міліцыянтаў прыйшлі на хату Васіля Старавойтава і апісалі ўсю ягоную маёмасць. У спіс трапілі халадзільнік, маразільнік, два тэлевізаты і два відэамагнітафоны, мэбля. Былі забраныя 1.110 долараў ЗША і залаты ланцужок — падарунак Васілю Канстанцінавічу на 70-годдзе. З гаража міліцыянты вывезлі таксама дзве легкавыя аўтамашыны, якімі карысталася сям'я Старавойтава. У чацвер раніцай з Мышкавічаў у раённы цэнтр Кіраўск жонка Старавойтава адправілася пешшу.

Ёсць звесткі, што і на кватэры Лявонава ў Мінску быў праведзены вобыск і апісана маёмасць.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Есть дешевое сало. Но в Голландии

Как известно, основным продуктом питания белорусов является бульба и сало. Поэтому вопрос (президенту, правительству, многочисленным чиновникам и председателям колхозов): почему за 3 доллара (100 тысяч белорусских рублей) мне из «загнивающей» капиталистической Голландии, где нет колхозов, привезли четыре килограмма вкусного сала. А у нас, в колхозной Беларуси, один килограмм оного продукта стоит от девяноста тысяч и выше. При этом я скромно умалчиваю о разнице в зарплате.

**Александр ОЛЬХОВСКИЙ,** *г.Минск*

## Встреча с контролером

В передаче Белорусской службы Радио «Свобода» 9 ноября выступавшая женщина рассказала такую историю. Когда ей задают вопрос: «Чаму Вы размаўляеце на беларускай мове?», она отвечает: «Таму што працую на радыё».

В этой связи вспоминается случай в пригородном поезде «Молодечно-Полоцк» в 1996 году. Проверявший билеты контролер — мужчина — разговаривал исключительно по-белорусски, и когда он подошел ко мне, я задал ему тот же вопрос.

«Таму што я па паходжанню беларускі поляк, а раз я беларускі поляк ёсць, дык і павінен размаўляць на людскай мове, а не на нейкай там іншаземнай», — ответил он, присаживаясь возле меня.

Вот такой урок патриотизма преподал он нам — пассажирам. Очень приятный контролер. Я часто вспоминаю о нем с теплотой в душе.

**Н.ВЯЗЬМИН,** *инженер, г.Минск*

## Мінскі варыянт

У аўторак я ехаў у тралейбусе. Зайшлі тры здаравенныя дзецюкі-кантралёры. Дзве старэнькія бабулькі ехалі зайцам. Кажуць кантралёрам, што не атрымалі пенсіі і не было грошай купіць талоны. Якую лаянку ўчынілі гэтыя маладыя здаравенныя хлапцы на старэнькіх бабуль. Але лаянкай яны не задаволіліся, а сілком пацягнулі напалоханых бабуль у міліцыю. Вось вам «павага» да старэйшага пакалення.

Я думаю, што таталітарны рэжым не можа паважаць людзей. У нас створаны магутны кантрольна-прымусовы апарат, і ён робіць сваю справу, не зважаючы на нормы маралі. А падбіраюць у гэты дзяржаўны апарат людзей нахабных і бесчалавечных. Для такіх што малы, што стары — адно і тое ж. Ён, гэты дзяцюк, «сумленны выканаўца» таго, што яму загадаюць. Я стары чалавек, помню 30-я гады, але такога нават у тыя часы я не бачыў.

**НАХМАНОВІЧ Якаў Навумавіч,** *пенсіянер, жыхар Мінска з 1931 года.*

## Напішыце...

Надрукуйце, калі ласка, у якія краіны далёкага замежжа і колькі разоў ездзіў А.Лукашэнка. На гэты конт я звяртаўся па тэлефоне ў міністэрства замежных справаў, але там адказалі, што такую інфармацыю яны не даюць. Няўжо гэта сакрэт?

**А.МАЛАКОВІЧ**

*Чытачы пра газету*

## В целом хорошо, но...

Уважаемая редакция газеты СВАБОДА. Спасибо за вашу газету. Уже 2 года выписываю только ее (в противовес Белорусскому телевидению). Хотелось бы прочесть хороший аналитический материал о научном потенциале Республики Беларусь, о неиспользовании интеллектуального богатства Республики, о низкой оплате труда докторов и кандидатов наук, об утечке «мозгов», о депрессии, которой подвержены работники творческих профессий, когда не находят применения своим знаниям и умениям. К чему приведет такая недальновидная политика? Приведите исторические параллели.

Может быть поменьше информации с мест о пожарах, водке, дебошах, посевах и битве за урожай.

Хотелось бы видеть материалы экономического характера: о рассчете среднемесячных зарплат по республике; о среднедушевом прожиточном минимуме (кто его и как определяет и как это можно сделать, если в течение месяца цены изменяются на 20-50%), о минимальной и максимальной зарплатах по отраслям, о декларировании доходов чиновниками и предпринимателями.

Еще, была бы кстати в газете колонка юриста, где бы давалась правовая оценка, например, декретов президента.

И, обязательно, несколько анекдотов, только шикарных, весомых, бьющих в глаз, а не в бровь. Это нужно, т.к. нельзя «накачивать» читателя негативной информацией.

А в целом, газета хорошая. Спасибо еще раз.

**ЛАПУШКИНА Татьяна Николаевна,** *38 лет, науч. сотрудник БелНИИ эпидемиологии и микробиологии*

**ПИШУ ВАМ ИЗ ЛАТВИИ.** Хотя я живу не в родной мне Беларуси, но вашу газету иногда я стараюсь получить и прочесть. Это доставляет мне большую радость. А летом, когда бываю на Родине, на этот период я становлюсь вашим самым внимательным читателем. В моем родном городе ваша газета самая читаемая среди интеллигенции. И я очень рада за вас.

С уважением **МАСЕЙЧУК Елена Ивановна,** *г.Талси, Латвия*

**САМА Я НАРАДЗІЛАСЯ НЕ Ў БЕЛАРУСІ,** але гэты край мне вельмі падабаецца і стаў мне родным. І беларускую мову я вывучала з задавальненнем. Цікавая яна і прыгожая.

**КАРЭКАВА Алена Андрэеўна,** *г.Мінск*

**РАНЕЙ Я ВЫПІСВАЎ** «Народную газету», але потым, калі знялі Сярэдзіча, яна стала рабіцца ўсё горшай і горшай, і я перастаў яе выпісваць. Аднойчы ехаў з працы, падышоў да кіёска і папрасіў прадаць якую-небудзь газету цікавей, мне падалі СВАБОДУ. І трэба ж было так здарыцца, што якраз у тым нумары была надрукавана паэма пра Луку Мудзішчава і адказ Лукі Ведзьмаку Лысагорскаму. Вось з таго часу і выпісваю вашую газету. Гады два ці болей я захоўваў тую газету з паэмай Лысагорскага, а цяпер газета кудысьці знікла (можа дзеці спёрлі). Таму прашу вас, калі ёсць такая магчымасць, то вышліце мне той нумар або надрукуйце тыя творы яшчэ раз.

Што тычыцца газеты, то для мяне СВАБОДА больш цікавая за іншыя. Але хацелася, каб газета менш займала месца партрэтамі правадыра, а больш друкавала разумных і ўедлівых артыкулаў ці памфлетаў, больш іроніі і насмешкі на ўсё, што творыцца ў нас.

**В.КУХАЛЬСКІ,** *г.Полацк*

**ШЧЫРАЕ ВІТАННЕ** рэдакцыі маёй самай любімай газеты! Вялікі дзякуй вам за словы праўды, веры і мужнасці, за вернасць Беларусі і нескаронасць. Вашая газета — як сапраўдны глыток свабоды ў паветры, атручаным злосцю, нянавісцю, здрадай і хлуснёй.

**ЯРМІШЫНА Надзея,** *студэнтка*

**ХОТЕЛОСЬ БЫ ВИДЕТЬ НА СТРАНИЦАХ ГАЗЕТЫ** больше публикаций о политической ситуации в странах СНГ и Восточной Европы, подобно той, как сделали о Туркмении.

С уважением и наилучшими пожеланиями

**Владислав Андреевич ПРУДНИКОВ,** *п/о Устье, Оршанский р-н*

## Газета не всем по карману

Уважаемая редакция! Я постоянный подписчик вашей газеты с первых дней ее появления в подписных каталогах. Мне, как пенсионерке и инвалиду, нелегко выкроить деньги на СВАБОДУ. Но я все равно буду выписывать ее, т.к. духовный хлеб нужен не меньше пищи для желудка.

Я уверена, что среди ваших читателей есть много людей обеспеченных. Почему бы им не выписывать лишний экземпляр СВАБОДЫ для своих знакомых, родственников, особенно в деревне. Если нужно, я могу дать адреса нескольких человек, которые сами не выписывают газеты из-за отсутствия средств. Пусть, если найдется спонсор, он свяжется со мной. Для этого сообщаю редакции свой телефон и адрес.

С уважением **КОСТЮК Инесса Владиславовна**

***Ад рэдакцыі: Мы з задавальненнем надрукуем любыя меркаванні пра СВАБОДУ, у т.л. рэзка крытычныя. Але чамусьці ў рэдакцыю не пішуць тыя чытачы, якія лічаць нас «нячэснымі» журналістамі. Пішыце. Чакаем.***

# Версия КГБ

В связи с публикацией в газете СВАБОДА (№ 120 от 29 октября 97 г.) заметки «Правакацыя ў стылі 30-х» Центр информации и общественных связей Комитета государственной безопасности Республики Беларусь уполномочен сообщить следующее.

Гражданка Пименова Инна Леонидовна проходит свидетелем по уголовному делу, находящемуся в производстве прокуратуры Столбцовского района Минской области.

На основании отдельного поручения следователя прокуратуры в порядке ст.127 Уголовно-процессуального Кодекса Республики Беларусь Пименова неоднократно вызывалась в следственный отдел областного Управления КГБ для дачи свидетельских показаний.

16 октября с.г. в ходе беседы с сотрудником КГБ Пименова инициативно сообщила о другом уголовном преступлении, якобы совершенном 9 октября с.г. секретарем Управы Белорусского народного фронта Вячеславом Сивчиком.

Поскольку данные, изложенные Пименовой, содержали признаки преступления, предусмотренного Уголовным Кодексом Республики Беларусь, затрагивали интересы личности самой Пименовой и подлежали проверке, сотрудник КГБ порекомендовал ей обратиться по компетенции с соответствующим заявлением в органы милиции. Однако Пименова заявила, что в правоохранительные органы она обращаться не будет, а вышеуказанные сведения намеревается использовать для оказания морального воздействия на Сивчика через руководство БНФ.

Версия всей этой истории в изложении газеты СВАБОДА вызывает по меньшей мере два риторических вопроса: зачем КГБ понуждать свидетеля обращаться с заявлением не в правоохранительные органы, а к Зенону Пазьняку и каким образом заявление Пименовой в адрес руководства БНФ 13 октября, как указано в заметке, могло быть написано «под давлением Комитета государственной безопасности», если беседа с ней состоялась на три дня позже — 16 октября?

Вопрос же о том, зачем потребовалось наносить ущерб репутации молодой женщины и ее семьи, обратим к совести автора и вдохновителей провокационной публикации. Уж не сделано ли это в угоду сохранению пошатнувшегося имиджа отдельных горе-политиков, готовых жертвовать человеческими судьбами ради спасения собственной шкуры?

**Центр информации и общественных связей Комитета государственной безопасности РБ**



*Глава Русской православной церкви Патриарх Алексий II считается одним из самых влиятельных людей России.*

# Святое дело

## *Русская православная церковь давно уже стала крупной фигурой российского бизнеса*

То, что российские компании имеют крупную собственность за рубежом, ни у кого не вызывает сомнения. Причем речь идет не только о квартирах или виллах, но и о промышленной собственности. Куда-то же должны вкладываться вывозимые за рубеж миллиарды, о которых только и говорят последние пять лет. Требует уточнения другое: каковы масштабы вывозимого капитала и насколько легально сделаны те или иные приобретения.

Недавно печать России и Италии обошла экзотическая весть: крупная российская компания намерена купить пакет акций *Banka di Roma* и управляющей компании на сумму 1 миллиард долларов. Экзотика состояла в том, что покупку затеяло АО МЭС («Международное экономическое сотрудничество»), основным учредителем которого является финансово-хозяйственное управление Московской патриархии.

Вероятно, если бы не итальянская пресса, в России еще долго никто бы не знал, что в Москве есть компании, готовые выложить миллиард долларов(!) за акции итальянского банка. Как правило, в таких случаях возникают вопросы «откуда деньги» и «зачем им это нужно». Оба вопроса так или иначе обсуждались в большинстве публикаций о намерении МЭС купить итальянский банк. Однако деликатность любого разговора на тему о приобретении чего-либо за рубежом состоит в том, что в соответствии с российским законодательством для вывоза капитала (а приобретение акций иностранных компаний есть экспорт капитала в самом кристально чистом виде) требуется лицензия Центрального банка России. Случаев, когда такие лицензии выдаются, чрезвычайно мало. Еще меньше случаев, когда установленный факт незаконного вывоза капитала становился предметом разбирательства.

Ставшая известной информация о возможной сделке по приобретению акций *Banka di Roma* поражает обилием подробностей. Пакет акций банка, на который в совокупности претендует МЭС, составляет 13 процентов плюс 35 процентов акций управляющей компании. Сейчас эти акции находятся в собственности итальянского правительства.

Вопрос о том, откуда у МЭС миллиард долларов, достаточно риторический. Созданная около семи лет назад под покровительством и при непосредственном участии Московской патриархии компания оказалась одним из крупнейших держателей всевозможных внешнеторговых льгот.

Правительство, вероятно, мучил комплекс исторической вины перед Русской православной церковью, имущество которой разграблялось и уничтожалось в течение всех лет советской власти. (Непонятно, правда, почему подобные льготы не достались муфтияту или раввинату, также немало пострадавшим от большевиков?) Когда же льготы стали отбирать, к церкви по причине политической «чувствительности» вопроса еще долго не решались подступиться. Между тем в 1993 году МЭС вошло в избранное число спецэкспортеров нефти и очень скоро превратилось в крупнейшего продавца этого выгоднейшего товара. МЭС также стало совладельцем Российского банка реконструкции и развития. Так что в целом МЭС — более чем успешная компания с годовым оборотом во многие сотни миллионов долларов. Почему бы в таком случае не купить акции иностранного банка? Однако, как оказалось, МЭС, подавшее заявку на приобретение акций, не имеет лицензии на вывоз капитала. Как заявил официальный представитель Центробанка, МЭС за такой лицензией даже не обращалось.

Из сообщения ЦБ можно сделать минимум два предположения. Первое: МЭС имеет на своих зарубежных счетах нелегально оставленную выручку, позволяющую думать о покупках в миллиард долларов. Второе: МЭС имеет возможность экспортировать капитал без всякого разрешения ЦБ. Можно, конечно, предположить, что МЭС и не собиралось покупать акции итальянского банка, а затеяло все это в чисто рекламных или каких-то иных целях. Но усомниться в этой версии заставляет то обстоятельство, что, по данным газеты «Коммерсант-дейли», МЭС еще в 1995 году занялось приобретением крупных предприятий по производству продуктов питания в Венгрии. Так что не ровен час Запад начнет протестовать против того, что новые русские компании скупают там у них все «по дешевке».

*«Сегодня»–«Итоги», Москва*

*Погляд з Вашынгтона*

# Краіна, дзе час ідзе назад

Напэўна, нідзе ў краінах былога Савецкага Саюза так не адчуваецца подых старых савецкіх часоў, як у гэтай усходнееўрапейскай краіне, якая ўсё працягвае змагацца з уяўнымі ворагамі. Размова ідзе пра Беларусь.

Вы, можа, лічыце, што толькі на Кубе кіраўнікі краіны камандуюць эканамічным уздымам? А вось беларускі прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка не так даўно загадаў, каб прамысловая вытворчасць у Беларусі падвысілася на 10 працэнтаў. І яна вырасла!

Вы ніколі не адчувалі нервовай напружанасці, калі КДБ гуляе з вамі быццам сабака з жабай? Прыязджайце ў сталіцу Беларусі — горад Мінск, дзе актывісты апазіцыі сакрэтна сустракаюцца, каб перадаць адзін аднаму падпольныя ўлёткі і відэастужкі, а сакрэтныя службы падпільноўваюць іх у аўтамабілях пад дзвярыма будынкаў.

Вы думаеце, што ўжо зніклі дзяржаўныя прадпрыемствы, якія кепска працуюць і плацяць зусім мала грошай сваім работнікам? У Беларусі дзесяткі прадпрыемстваў жывуць на датацыі і робяць рэчы, якія абсалютна нікому не патрэбныя.

Такім чынам — запрашаем Вас у падарожжа на машыне часу.

### Халодны душ

У 90-х гг. дэмакратыя і свабодны рынак былі адным з асноўных палітычных лозунгаў ва Усходняй Еўропе. Але не ўсім краінам яны падабаліся. Сярод гэтых краінаў была і Беларусь.

Беларусь — не адзіная савецкая рэспубліка, дзе абмяжоўваецца палітычная дзейнасць грамадзянаў і дзе не адбылася лібералізацыя эканомікі. У Казахстане, Узбекістане, Арменіі і Азербайджане стрэлкі гадзіннікаў таксама павернутыя назад — але ў многіх іншых краінах, што ўваходзілі ў Савецкі Саюз, працэс рэформаў ідзе.

Беларусь з насельніцтвам у 10 мільёнаў чалавек — адзіная краіна ў гэтай частцы Еўропы, дзе не адбылося ніякіх станоўчых зменаў. Усе яе суседзі паспяхова перажылі працэс лібералізацыі. У эканоміцы Польшча, Расія, Літва і Украіна патрапілі пад халодны душ свабоднага рынку, але, нягледзячы на цяжкія ўмовы жыцця, не вярнуліся да ўлады аднаго чалавека ці аднай партыі, як гэта было ў савецкія часы.

Сёлета Камітэт ААН па правах чалавека адзначыў, што Беларусь *«адмовілася практычна ад усіх дасягненняў, зробленых у накірунку забеспячэння правоў чалавека і вяршэнства закона»*. У прыватнасці, у Беларусі шырока распаўсюджаныя напады на прэсу — ад збіцця журналістаў да выкарыстання падатковай інспекцыі, каб задушыць выдаўцоў незалежных выданняў, паведаміў Камітэт ААН па правах чалавека.

### Бесталковы «старэйшы брат»

Беларусь таксама вядомая сваім няпэўным саюзам з Расіяй, падпісаным у гэтую вясну. Хоць у выніку гэтага пакту фармальна Расія і не паглынула Беларусь, але мяжы паміж дзвюма краінамі не існуе. Тыя, хто ляціць самалётам з Масквы ў Мінск, не праходзяць памежны ані мытны кантроль. Апроч таго, падпісанне дамовы канчаткова замацавала імкненне Беларусі разглядаць Маскву як крыніцу фінансавай падтрымкі і як галоўны палітычны арыенцір.

Расійскія лібералы непакояцца, што цесныя ўзаемаадносіны паміж Расіяй і Беларуссю могуць прывесці да таго, што Расія пяройме беларускі вопыт. Аднак паўстае і іншае пытанне: за чый кошт збіраецца квітнець невялікая, недэмакратычная краіна з нягнуткай эканомікай, падпарадкаванай дзяржаве, калі яе «вялікі брат» развіваецца ў супрацьлеглым напрамку?

Між тым урад Лукашэнкі гаворыць, што гэта Расія выбрала кепскі шлях развіцця. *«Мы кожны дзень бачым расійскія праблемы па тэлебачанні. Мы не збіраемся пераймаць гэты прыклад»*, — заявіў у інтэрв'ю міністр фінансаў Мікалай Корбут.

### Поўная адпаведнасць

У якой-небудзь іншай краіне свету падобныя заявы маглі б успрымацца як здзек або насмешка, аднак у Беларусі — яны зусім натуральныя. Яны яшчэ больш падагрэюць настальгію электарата па савецкіх часах, калі ўсім здавалася, што была эканамічная стабільнасць. Зрэшты, нават людзі, якія ўдзельнічаюць у прыватным прадпрымальніцтве і маюць някепскія заробкі, часам гавораць, што «тады жылося лягчэй». Чаго ж дзівіцца пазіцыі рабочых і служачых, якія поўнасцю залежаць ад дзяржавы? *«Пры савецкай уладзе было лепш: ты мог разлічваць, што заўтра рэчы будуць каштаваць столькі ж, як і сёння. А цяпер — грошы знікаюць гэтак жа хутка, як і рабочыя месцы»*, — гаворыць Любоў Комаш, афіцыянтка.

У Мінску ўсё ў поўнай адпаведнасці: клімат настолькі ж савецкі, наколькі шэрае неба ўвосень. У дзяржаўным гатэлі «Беларусь» ахоўнікі і швейцары абавязкова правераць ваш дакумент пры ўваходзе, афіцыянткі і пакаёўкі сядзяць перад экранам тэлевізара значна больш часу, чым працуюць, а на дыскатэках тут вы ўбачыце аднолькавыя танцы «крок туды — крок назад», якая музыка ні іграла б.

У замежнага грамадзяніна, які жыве ў гатэлі, забалеў жывот. Выклікалі лекара, але ў яго няма з сабой ніякіх лекаў. Ён спрабуе хаця б памераць хвораму ціск — але раптоўна рвецца шланг. Стараючыся хоць неяк рэабілітавацца, доктар дастае нават электракардыёграф... Іншаземец не хоча ўжо ніякага лячэння — абы пакінулі ў спакоі.

### Знакі капіталізму

Зрэшты, не так усё змрочна. Ураджэнні эпохі «халоднай вайны» крыху развейваюцца, калі бачыш рэстараны *McDonald's*, краму фірмы *Benetton*, чытаеш у газеце пра завод карпарацыі *Ford* або заўважаеш на вуліцах некалькі капіталістычных транспарантаў і рэкламных шчытоў.

Але па вялікім рахунку замежныя інвестыцыі сюды не ідуць: бізнес баіцца няпэўнасці, палітычнай і эканамічнай нестабільнасці. Летась агульная сума замежных інвестыцыяў дасягнула ў Беларусі 58 мільёнаў долараў — параўнайце гэта з лічбай у больш як 2 мільярды долараў у суседняй Польшчы. А ў рэйтынгу спрыяльнасці для бізнесу (такі спіс складае Сусветны банк) Беларусь займае толькі 115-ю пазіцыю ў спісе са 135 краін.

### Шокавай тэрапіі не будзе

Беларускі ўрад прыняў пастанову, якая забараняе прыватызацыю ў некаторых галінах прамысловасці, сярод якіх вытворчасць трактараў, оптыкі і металу — а гэта больш як палова ўсіх буйных беларускіх прадпрыемстваў. Кожны раз, калі ў бюджэце не хапае грошай, урад проста дадрукоўвае неабходную суму замест таго, каб скарачаць расходы.

*«У гэтай краіне ніколі не будзе «шокавай тэрапіі»*, — гаворыць Эдуард Эйдзін, кансультант, які ўдзельнічаў у стварэнні эканамічнай праграмы. — *Нашы людзі не могуць згадзіцца, каб у краіне існавала невялікая колькасць багатых людзей, якія б дапамаглі астатнім таксама зрабіцца багатымі. Сёння мы не лічым інфляцыю злачынствам. Мы друкуем грошы, бо не можам адначасова і праводзіць рэформы, і выплачваць заробкі»*.

Тое ж адбываецца і ў палітыцы, прызнаў Э.Эйдзін. Здавалася, што ён не вельмі задаволены тэмай нашай гаворкі. Празрыста намякнуўшы, што ў пакоі могуць быць схаваныя «жучкі», ён сказаў: *«Спачатку накарміце людзей, а потым ужо мы будзем размаўляць пра дэмакратыю»*.

### Свабода – асэнсаваная неабходнасць

Міністр фінансаў М.Корбут сцвярджае, што ў краіне няма апазіцыі — толькі «нефармальныя групы», якія крытыкуюць Беларусь перад іншымі краінамі. Сам тэрмін «нефармальныя групы», які ўжыў міністр, застаўся яшчэ з савецкіх часоў. *«У нас ёсць сапраўдная моцная ўлада і народная падтрымка»*, — настойвае М.Корбут. Ён нават працытаваў Маркса: *«Свабода — гэта асэнсаваная неабходнасць, і кожны яе ацэньвае так, як яе разумее»*.

З гэтага ж зыходзіць і 43-гадовы прэзідэнт Беларусі А.Лукашэнка, які перамог у 1994 на прэзідэнцкіх выбарах, паабяцаўшы «ачысціць урад ад карупцыі». Але ўжо ў хуткім часе ён атрымаў скандальную рэпутацыю ў свеце, бо пачаў хваліць Гітлера за пабудову «моцнай Германіі» і паабяцаў ужываць сваю прэзідэнцкую ўладу такім жа чынам.

Лукашэнка апраўдвае суровыя меры, што ён ужывае супраць прэсы, тым, што нібыта Беларусь апынулася ў «коле ворагаў». Год таму Лукашэнка распусціў парламент і арганізаваў рэферэндум для прыняцця новай канстытуцыі, якая надала яму ўсе магчымыя паўнамоцтвы. Апазіцыя мае факты, што рэферэндум быў сфальсіфікаваны.

Увесну Лукашэнка зачыніў Фонд Сораса, які выдаткоўваў грошы на праекты па падтрымцы дэмакратыі, аздараўленчых і адукацыйных праграмаў. Банкаўскія рахункі Фонду банка былі арыштаваныя дзяржавай. І пры гэтым у мінулым месяцы Лукашэнка ў сваёй прамове запэўніў: *«Мы не парушаем правы чалавека. Нашы правы чалавека — жыць, зарабляць і атрымліваць інфармацыю — выконваюцца на 100 працэнтаў»*.

### А што заўтра?

Але прэзідэнцкія апаненты сцвярджаюць, што Беларусь знаходзіцца на шляху да доўгатэрміновага дыктатарства. Іхнія меркаванні разыходзяцца толькі наконт таго, наколькі жорсткім будзе рэжым. *«Ён не будзе забіваць людзей — краіна маленькая. Гэта будзе такое вясковае дыктатарства, калі кожны ведае, хто кіруе ўсім»*, — кажа Пётр Марцаў, галоўны рэдактар «Белорусской деловой газеты».

*«На сённяшні дзень у краіне існуе мяккая форма сталінізму»*, — упэўнены Юры Хашчавацкі, рэжысёр забароненага ўладамі дакументальнага фільма пра Лукашэнку. Гэты фільм яшчэ нідзе не паказваўся. *«Вы адчуваеце, як напружанасць падвышаецца? У дамах праводзяцца вобыскі. Падатковыя інспекцыі душаць бізнесменаў, якія падтрымліваюць апазіцыю. Міліцыя збівае дэманстрантаў. Але ці пойдзе Лукашэнка на праліццё крыві, пакуль яшчэ невядома»*, — гаворыць рэжысёр.

А тым часам Захад спыніў фінансавую падтрымку Беларусі. Беларусь пакуль што не ўяўляе вялікай стратэгічнай праблемы: яна пазбавілася ядзернай зброі, што заставалася з савецкіх часоў. Але як павернецца ўсё заўтра?

**Дэніэл ЎІЛЬЯМС,**
*Washington Post*
*Пераклаў*
**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

*80 гадоў таму...*

# Восень 1917-га вачыма «Вольнай Беларусі»

**Наш чытач мае рэдкую магчымасць пабачыць рэпарцёрскае беларускае слова 80-гадовай даўнасці. У адрозненне ад бальшавіцкай газеты «Звезда», якая доўгі час лічылася адзіным люстэркам, вартым Кастрычніцкай рэвалюцыі, і «кую за дзесяцігоддзі расцягалі ў цытатах па дысертацыях і манаграфіях, папулярных нарысах, «Вольная Беларусь» амаль невядома сучаснай грамадскасці. І не дзіва — усе гады экземпляры газеты захоўваліся ў архіўным «спецхране». Выдавалася газета ў Мінску ў маі 1917 — лістападзе 1918 года, мела нацыянальна-дэмакратычны кірунак. Рэдактарам быў Язэп Лёсік.**

**У «Вольнай Беларусі» ўпершыню апублікаваны першая рэдакцыя паэмы «Сымон-музыка» і раздзелы з паэмы «Новая зямля», драма «Антось Лата», шэраг вершаў і ваенных рэпартажаў Якуба Коласа. Славутая «Пагоня» М.Багдановіча таксама ўпершыню пабачыла тут свет. Супрацоўнічалі з газетай З.Бядуля, А.Гарун, М.Гарэцкі, друкаваліся творы К.Каганца, А.Паўловіча, Ц.Гартнага, У.Галубка, Ф.Аляхновіча, Ф.Шантыра, К.Буйло, З.Верас, М.Краўцова.**

**Фрагменты публікацый «Вольнай Беларусі» восені 1917 года падаюцца на тагачаснай мове арыгіналу, даты — паводле старога стылю.**

## Работнікі-беларусы у Петраградзі

Іх шмат тут, сыноў Беларусі. Горкі лёс адарваў іх ад родных ніў, цяжкая доля выгнала з бедных хатаў, і павандравалі яны ў чужы вялізарны горад шукаць сабе хлеба...

Іх многа тут, сыноў Беларусі. Ля варстакоў, ля домнаў, пры тачках, — усюды вы можаця напаткаць іх, адчуваючы мягкі гоман перакручанай роднай мовы. На ваша запытаньне: «ці ні беларусы адно вы?» — вам згодна адкажуць: «так, беларусы!» А так, самі ад сябе, яны ніколі ня ўспамінаюць свайго краю, цураюцца роднай мовы, прыладжваючыся да тэй, якая чуецца навокала.

Мне шкода іх... Я ня злую ані званьня на іх, не сярдую ні каліва, бо гэта ацёмныя, закінутыя на далёкую чужыну людзі і горкай доляй прымушаны ня чуць і ня бачыць таго, што робіцца дома, у родным краю...

Але я мушу злаваць на другіх. Тут, у вялізарным Петраградзі, шмат ёсьць такіх, што навучыліся і умеюць разбірацца ў варунках жыцьця, каму ня хібіла сьвядомасьці, хто ўмея змагацца за ўвесь спаняверaны люд. О, яны ведаюць, як соладка жыцьцё уцiснутых, не дзяржаўных нацый. Ведаюць яны, што і родная краіна іх, Беларусь, стогне ад зьдзеку і зьнявагі, але на гэта не зьвяртаецца іх думка, сьвядома й наўмысьля прыдушана пачуцьцё да роднай старонкі. Ім убіта у галаў сухая, аднабокая думка аб агульна-работніцкім інтэрэсі і убіта тымі, каго не абыходзіць справа уціску нацый, каму нізнаёма тая падвойная сіла прыгняценьня, якая ціcьня беларуса, як работніка наагул і беларуса ў асобку...

**Ц.Гартны**

*№ 15, 23 жніўня*

## Па Беларусі

**ОРША.** 31 жніўня і 2 верасьня тут адбыліся беларускія спэктаклі Першага Таварыства беларускай драмы і камэдыі. 31-га ставілі «Паўлінку» і «У зімовы вечар», 2-га — «Пашыліся у дурні» і «Модны Шляхцюк». Апрача таго, быў дывэртысмэнт. Выступаў беларускі хор. Пекныя напевы нашых беларускіх песьняў падабаліся усім. У «Паўлінцы» найбольш выдавалася сваёю ігрою сама Паўлінка (Ліпнічанка). Артысьтцы паднесьлі букет з жывых кветак. «У зімовы вечар» прайшло так сама дужа добра. Асабліва вызначыліся сваёю ігрою Ф.Ждановіч (у ролі падарожнага) і А.Крыніца (у ролі гаспадара). А.Крыніца так сама атрымаў букет. «Пашыліся у дурні» прайшло гладка. Выхад артыстаў, на пярэднім спэктаклі выявіўшых са сцэны характво беларускай гутаркі і лепшыя бокі нашага нацыянальнага характару, публіка зустрачала моцным пляскань-нем у далоні.

**СТАНЦЫЯ РАТАМКА ЛІБ.-РОМ. Ж.Д.** Тут недаўна лётаў нямецкі арэаплян. Кінуў некольki бомбаў; аднэй лёгка зраніло кабеціну, якую палажылі у бальніцу.

Летась нямецкія арэапляны яшчэ горш вычваралі над Ратамкай і часта рабілі шкоды.

## Дэмакратычная Рада

На дэмакратычнай усерасійскай парадзі, што адбылася у верасьні ў Петраградзі, абрана усерасійская дэмакратычная Рада, або перадпарлямэнт. У склад Рады увайшло 308 прэдстаўнікоў, с паміж каторых — 25 членаў ад нацыянальных арганізацый. Ад беларусаў 2 — Жылуновіч і Воронко.

*№ 22, 4 кастрычніка*

## Падслуханае

Гудуць кулі, грукацяць гарматы. Кабета трасецца ад жаху, а нямецкі ахвіцэр і пытае: «Што лепш — каб мы прагналі, ці каб нас прагналі?»

— Лепяй бы, мой паночку, каб немцы прагналі маскалёў, але каб і самі назад ня вярнуліся.

## Лісты с Петраграду

Учора апоўдні прыехаў я ў Петраград. Толькі выйшоў з вакзалу, як адразу жа ўбачыў, што з Піцярам творыцца нешта недаладнае, не паходзіць ён на даўнейшы Піцяр. Пагода стаіць ясная, але народу на вуліцах ні шмат, з няпрывычкі здаецца, што нікога німа, што горад вымяр. Трамвай ходзе, але паціхеньку, як які стары дзядок, або як людзі ў пакоіку, гдзе ляжыць хворы. У параўнаваньні з піцярскім трамваем мінская конка лётае, як маланка...

## У забранай частцы Беларусі

Насяленьне ўсюды перапісано, і немцы строга глядзяць за тым, каб селянін не астаўляў сабе харчоў больш пэўнай нормы. Перапісаны ня толькі людзі, але й жывёла. Кожны, хто мае карову, павінен дастаўляць уласьцям па 1 ф. масла на тыдзень, хто мае куры, павінен дастаўляць кожны тыдзень па 1 яйцу ад курыцы...

Вялікія і даўней непралазныя пінскія балоты цяпер абсушаны немцамі. Усюды пракопаны канавы, пароблены шашовыя дарогі, праведзены тэлеграфныя лініі і пракладзены вузкакалейныя жалезныя дарогі. Гдзе грунт быў надта забалочаны і не паддаваўся абсушэньню, пракладзены грэблі.

Немцы высякаюць усюды лясы і адвозяць дрэво да Нямеччыны. Цяпер яны ўзяліся за эксплаатацыю Белавежскай пушчы.

*№ 23, 9 кастрычніка*

## Новыя Беларускія кніжкі

У Петраградзі Л.Хвецько і Суполка выдала беларускія «Касьцельныя песьні» з нотамі (лацінкаю), сабраныя дырыгентам Катэдральнага хору, вучыцелем сьпеву у кат. Акадэміі і Сэмінарыі у Петраградзі В.Гожзьлянскім.

Выдавецтво «Вольнае Беларусі» выдало адздельнай адбіткай «Мэморыю прэдстаўнікоў Беларусі на ІІІ канфэрэнцыі народаў» і «Аўтаномія Беларусі» напісаную праз Я.Лёсіка.

## Вайна

**На усіх фронтах стрэляніна і выведы.** Заўважваюцца спробы непрыяцеля да «братаньня» на поўночным фронці, каля Іллукста у раёні паўд. Паневежскай ж. д. каля в.Братанішкі, у заходнім районі на поўнач. Паставаў, каля возера Вішнеўскага, на поўночна-захад ад м.Крошына.

Спробы «братаньня» стрымоўваюцца агнём нашай артыллеры.

**Балтыйскае морэ.** Петраградзкае Тэлегр. Агенство паведамляе, што немцы с 29 верэсьня па 4-е кастрычніка страцілі 9 караблёў, з ніх дрэдноут і крэйсер утапіліся. Адзін крэйсер наскочыў на скелю, 4 мінононосцы утоплены і 2 выведзены с строю. Нашы страты — «Гром» і «Слава». Шкода у «Гражданіна» і «Баяна» невялікая. Абудва караблі засталіся у строю на першай лініі. Настрой у матросаў — вышэй пахвалы. «Гром» меў 20 пробоін, загарэўся і страляў да астатняга часу. Калі яго пакінула ужо каманда, да яго падышоў нямецкі міноносец, каб узяць яго на буксір, але мінны машыніст, што быў на караблі, пусьціў у яго мінаносца міну і ён утапіўся разам з «Громам».

*№ 25, 19 кастрычніка*

## Таварышы і грамадзяне!

На выбарах да Устаноўчага Сойму па Міншчыні галасуйце за сьпісак № 13 Беларускай Сацыялістычнай Грамады.

Сацыялістычная грамада выстаўляе гэтакіх кандыдатаў:

1) Прушынскі Аляксандр Уладзіміраў, — беларускі паэт (Алесь Гарун), адбыў 9 год ссылкі за зямлю і волю народа. (Мінск, 2-я Мікалаеўск., 6).

2) Петроўскі Базыль Петраў (Масква, Перэведзероўка, 12). — Работнік і літэратор. Родам з Капыля.

3) Лёсік Язэп Юркаў, (Мінск, Захараўск., 18).

4) Жылуновіч Змітрук Тодараў, (Петроград, Знаменская, 36-54.) Работнік, канторшчык. Беларускі пісьменнік (Цішка Гартны). Родам з Капыля.

5) Міхайлоўскі-Рак Сымон Аляксандраў, салдат, X арміі, вучыцель.

6) Мамонька Язэп Аляксеяў, салдат, XII арміі. Родам са Случчыны.

7) Тарашкевіч Броніслаў Адамаў, (Петроград, Знаменская 36-54) Сын селяніна с-пад Вільні, кандыдат філолёгіі.

8) Турук Тодар Тодараў, (Масква, В.-Лубянка, Зрэценск., 6). Вучыцель Мінскай гімназіі. Родам з Новагрудчыны.

9) Адамовіч Вячэслаў Антонаў. (Мінск, Міхайлаўская, 21). Даўнейшы рэдактар «Северо-Запад. Телеграфа».

10) Бадунова Палагея Александроўна (Мінск, Захароўск., 18) народн. вучыц.

11) Міцкевіч Канстантын Міхалаў (Якуб Колас). Вядомы паэт Беларусі з Мікалаўшчыны, Мінскага пав., падпаручык 292 Александ. полку.

12) Остроўскі Родаслаў Казіміраў, Слуцк, Камісарыят. Вучыцель с Случчыны, беларускі працаўнік.

13) Смоліч Аркадзі Антонаў, агроном, родам з Бабруйскага павету, беларускі дзеяч.


ВОЛЬНАЯ Беларусь

Цэна асобнаго № 15 кап.

Уновы падпіскі

Газета палітычная, экономічная і літэратурная.

№ 3. (Аўторак) Выходзіць двойчы на тыдзень.

ГРАМАДЗЯНЕ-БЕЛАРУСЫ!

## З Румынскага фронту

...Са станцыі мы пашлі ў румынскі гарадок, тут жэ нідалёка, і адразу папалі ў тую бязталковіцу, каторую так багата наша Расія. Мы доўга блуталіся па незнаёмых вуліцах, забегалі ў дварэ, падымалі сонных румынаў, каб распытаць у іх дарогу. Румыны нічога не цямілі ў нашай гаворцы, хоць старання памагчы нам у іх было многа. Мы пыталі ў іх па сваёму, а яны па сваёму адказвалі нам, тлумачылі доўга, паказывалі і два і тры пальцы.

— Эй, руманэшт! — звяртаўся да румына наш салдат: — уні ест тут эталны камэндант?

— Камэндант! камэндант! — хапаўся румын за гэта адно знаёмае слова і пачынаў тлумачыць.

— Дык дзе ж ён, дзе? — насядаў салдат: — ідзі, пакажы!

Румын ішоў з намі колькі крокаў. Спыніўшыся, зноў пачынаў тлумачыць.

— Эх, які бязмозгі румынэшт! — цярпенне ў салдата лопало, і ён урэшці ня вытрымаў.

— А прападзі ты пропадам! Чорт цябе ведае, што ты лапочаш! Заехаць бы табе па карку, можа б паразумнеў.

Румын здаволена і весела ківаў галавою, думаючы, што ў канцы ўсё ж такі давёў нас да розуму...

**Якуб Колас**

*№ 26, 26 кастрычніка*

**РЭКВІЗІЦЫЯ ПАМЯШКАННЯ ДЛЯ ВЯЛІКАЙ БЕЛАРУСКАЙ РАДЫ І ДЛЯ ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ ЧАСОВАЕ ЦЭНТРАЛЬНАЕ ВАЙСКОВАЕ РАДЫ**

II-я сэсія Цэнтральнае Рады беларускіх арганізацый і з'езд беларусоў воінаў адбываліся ў памяшканні камісарыяту (б. губэрнатарскі дом, Пляц вольнасьці). Гэта памяшканне і рэквізована дзеля патрэб цэнтральных беларускіх арганізацый. 27-га кастрычніка мінскія «бальшэвікі» намагаліся забраць яго сабе і паслалі туды свой ваенны патруль, бо пасьля перагавораў прышлі к паразуменню з загадчыкамі цэнтральных беларускіх устаноў і патруль свой зьнялі. Цяпер беларусы паставілі ўласную варту і моцна трымаюць памяшканне ў сваіх руках.

**Адзіная ў гэтай публікацыі сучасная рэдактарская заўвага. Наступнае паведамленне прысвечана падзеі, якую потым будуць называць Вялікім Кастрычнікам. А тады яго надрукавалі на апошняй старонцы газеты побач са скандальнай нататкай пра мінскіх домаўласнікаў і кватарантаў...**

## Арэшт Правіцельства

24-га кастрычніка пад загадам «большэвікоў» пачалося ў Петраградзі поўстанне. «Большэвікі» дамагаліся скінуць Часовы Урад, захапіць уласьць і такім чынам зрабіць у Расіі сацыяльную рэвалюцыю і ўстановіць сацыалізм. 26-га кастрычніка ў Зімнім палацу арыштован Часовы Урад, апрач міністра старшыні А.Ф.Керэнскага, каторы падчас паўстання трапіў на фронт і адтуль пайшоў з войскам на Петраград. Заміж сацыяльнай рэвалюцыі пачалася анархія і крывавая грамадзкая вайна. Пэўных вестак аб тым, што рабілася і што цяпер робіцца ў Петраградзі — німа. «Большэвікі», захапіўшы ўласьць, разагналі штыкамі Раду Рэспублікі і налажылі на ўсё пільную цэнзуру. Г.Мінск 28-га кастрычніка быў саўсім адрэзан ад Петраграду і жадных вестак адтуль не было. Рада с. і р. дэпутатаў у Мінску абвесьціла, што ўся ўлада ў горадзі перайшла да яе. Па гораду расклеяны аб гэтым афішкі, на Палацу вольнасьці (каля сабору) стаялі кулемёты, разьежджалі па горадзі патрулі, але ўвесь час спакойна.

Вялікая Беларуская Рада гэтак сама выдала да народу беларускага «грамату», у якой заклікае ўсіх трымаць парадак і спакой.

## Домаўласьнікі і кватэранты

На пасядзэньню Мінскай Гарадзкой Думы 4 кастрычніка была выбрана камісія для апрацаваньня правілаў для пакояў згоды з прэдстаўнікоў домаўласьнікаў і кватэрантаў, запрапанаваная членам думы, яг. Гельтманам. У камісію выбраны п.п. Янкоўскі, Альшук, Шапіра, Амброшкевіч і Зіміонка.

З дакладу п.Альшука выявілася, што домаўласьнікі, выжываючы с кватэраў прыкрых сабе кватэрантаў, дазваляюць сабе самавольства, выймаючы с кватэр вокны, разбурываючы каміны і т.д.

## Беларуская мова ў гімназіі

На агульным сабраньні «радзіцельскага камітэту» (бацькоў і апекуноў вучняў) мужской гімназіі пры р.-каталіцком касьцёлі св.Кацярыны ў Петраградзі, гдзе вучацца каталіцкія дзеці розных народнасьцяў і гдзе кожная народнасьць мае для сваіх дзяцей лекціі іх роднай мовы, як літоўскай, латышскай і др., а небыло толькі навучаньня нашай беларускай мовы, хоць шмат ёсьць дзяцей беларусаў, выступіў пан інжынер-тэхнолёг Перапечка з дамаганьнем, каб і для беларусаў была ўведзена навука беларускай мовы. Яго падтрымаў пан Сталыгва і капэлян гэтай гімназіі кс.Мажановіч.

(Працяг на стар. 6)




На здымку: У параўнаваньні з піцярскім трамваем мінская конка лётае, як маланка...

СВАБОДА
14 лістапада 1997 г., № 126

# Восень 1917-га вачыма «Вольнай Беларусі»

(Пачатак на стар. 5)

## Закон на беларускай мові

На моцы ўхвалы Усерасійскае па справам аб выбарах да Устан. Сойму Камісіі, статут аб выбарах друкуецца на шаснаццаці мовах народаў Расійскай Рэспублікі, у тым ліку і на беларускай.

*№ 27, 30 кастрычніка*

## Паўстанне

1-го лістапада. У Маскве бесперастанку велася канонада; у цэнтры гораду вялікія зруйнавання. Разгромляны гарэлачныя склады. Па краёх гораду пачаліся галодныя бунты.

Ц.К. Пачтова-тэлегр. хаўрусу пагражае абвесьціць забастоўку, калі ні будзе супынено братабойство і складзяно згоднае сацыялістычнае міністэрство.

Як паведамляе Воен. Рэвалюц. Камітэт, казакі ў Гатчыні перайшлі да «большэвікоў». Гатчыну «большэвікі» забралі. Арыштован ген. Красноў, Войцінскі і штаб Керэнскаго. Сам Керэнскі ўцёк. На запытанне, дзе дзеўся Керэнскі, б. міністр землярозбства адказаў: «Ушел, куда нужно.» Ад імяні казакоў, Ваен. Рэвал. Камітэту, Рады Камісараў і Ц.И.К. адбіты тэлеграммы з наказам артыштаваць Керэнскага.

## Паўстанне і нашыя заданні

Карыстаючы з агульнадзяржаўнаго безладдзя і жаданьня ў салдатаў ніодкладнаго міру, «большэвікі» распачалі ў Петраградзі паўстанне, арыштавалі Часовы Урад і забралі ўласьць у свае рукі. Яшчэ змаганне за ўладарство ў дзяржаві ні скончано, — па гарадох ідуць бойкі, льецца кроў, руйнуюцца гістарычныя помнікі і культурныя здабыткі і трудна праве ўпэўніцца, чым гэта скончыцца, але адно ясно, што ні «большэвікі», ні згодна складзенае міністэрство і ні жадны іншы ўрад з Масквы ці з Петраграду ўстановіць парадку ні можа. Ні ўстановіць яго і той агульнадзяржаўны ўстаноўчы сойм, на каторы дзе-хто пакладае надзеі і да склікання каторага так млява і нідбала гатуюцца. Падзеі апошняга часу засланілі ўстаноўчы Сойм, і калі нават ён і ні разабьецца а скелі палітычнаю бурай і сабярэцца ў тэрмін, дык кожнаму відочна, што ён нікога ні здаволіць, парадку ні ўстановіць, і нічога ні зробіць, як нічога ні зрабіла т.з. Рада Рэспублікі, пабудаваная па прынцыпу вялікадзяржаўнага цэнтралізму.

## II-я сэсія Цэнтральнае Рады Беларускіх арганізацый

Салдат Мамонька, прэдстаўнік XII арміі робіць даклад аб зьездзі беларусаў XII арміі. На зьездзі было каля 1.000 чалавек і ўхваляна гэткая дэкляpaцыя: 1) фэдэрацыя, 2) роўнапраўство моваў; 3) скліканне нацыянальных устаноўчых соймаў і 4) прадстаўнік ад Беларусі — на мірной канфэрэнцыі.

Я.Варонка перад тым, як зрабіць даклад агульна-палітычнай камісіі, расказвае, што ў Петраградзі часта скліkаліся мітынгі дзеля пашырэньня нацыянальнай сьвядомасьці сярод беларусаў. На адным польскім мітынгу прамаўляў беларус. Пасьля яго прамовы выступіў з натоўпу адзін чалавек і, кепска гаворачы па-польску, сказаў, што ён сягодня мае вялікае шчасьце, бо даведаўся, што ён — беларус. Гэта выклікало гучную авацыю.

## У забранай Беларусі

...Як толькі немцы займуць якое места ці вёску, дык зараз-жа перапісваюць усіх жыхароў і кожнаму выдаюць за пэўную плату пашпарт з партрэтам яго ўласьніка. Бяз гэткага пашпарту ніхто ні мае права выйсьці нават на вуліцу.

Коні, здольных да працы, пазабіралі; грошы за іх ні плацілі, а павыдавалі квіткі і кажуць, што заплаце руская казна. Былі і такія здарэнні, што забіралі коні, а потым прысылалі паперу, што склікалі народ ды чыталі, што той ці інны генэрал ці палкоўнік «дзякуе за ахвяру нямецкаму войску».

Усюды заведзяна кругавая парука: за беднаго плаціць падаткі грамада, а гэтак сама грамадаю плацяць і штрапы. Калі ў каго знойдуць уцекача палоннаго, накладаюць вялікі штрап; калі сам гаспадар ні можа заплаціць — плаціць уся грамада. Дзеля гэтага жыхары пільна глядзяць адзін за другім.

Немцы пазабівалі сабак і катоў. У Вільні ні ўгледзіш сабакі. Зрабілі яны гэта с тэй прычыны, што сабак і катоў трэба карміць. Ні відно і варон. Немцы ядуць іх самі і раюць людзям есьці, а хто ні хоча, той павінен іх забіваць ды прысылаць да ўправы, гдзе плацяць 25 кап. за маладую, 13 кап. за старую варону.

*№ 28, 8 лістапада*

## Сучасны момэнт

...Усе народы Расіі з жахам адхіснуліся ад таго, што робіцца ў Петраградзі, адна Беларусь ні можа парваць з заразным і безнадзейна хворым арганізмам. Прыступіць да захавання свайго краю ад загібелі — яшчэ ні значыць аддзяліцца, і беларускаму грамадзянству пара кінуць старыя забабоны і нібаўна пачаць працу па адбудаванню свайго краю коштам уласных сіл і заходаў.

...Анархічная зараза, нахлынуўшая на нас з цэнтру, ахапіла ўвесь наш край ад краю да краю. Штодня прыносяцца жахлівыя весткі, — што пагромы, гвалт і руйнаванне разліліся па ўсёй шырокай Беларусі. Панскія маёнткі, лясэ, садыбы, усё грамадское дабро паліцца, крышыцца, нішчыцца, або псуецца на векі. Гіне скарб, пустошыцца край, гарыць народнае дабро. І хтож дасьць ратунак нам, як ні мы самі? Хто дапаможа нам, калі кожын затурбован сабою? Украіна гасіць пажар сама і цераз моро бушуючаго агніска падае нам раду ўласнаго ратавання...

## Хто такія большэвікі?

У канцы лістападу (з 24 -25 лічбу) у Петраградзі пачалося паўстанне, ініцыятарамі, або павадырамі каторага зьяўляюцца большэвікі і прыхільныя да іх элямэнты.

...Большэвікамі завуцца тыя людзі, каторыя трымаюцца поглядаў ліваго крыла расійскай соцыял-дэмакратычнае работніцкае партыі. Зарганізаваўшыся ў 1898 г. на першым сваём зьездзі, расійская соцыялдэмакратычная работніцкая партыя ўжо на другом зьездзі ў 1903 г. раскалолася на дзьве часьці (фракцыі), меньшую па ліку прэдстаўнікоў зьезду, і большую. Сябрукі меньшае фракцыі сталі звацца меньшэвікамі, а большае — большэвікамі. На чале большэвікоў стаялі ў той час Ленін (Ульянаў) і Плеханаў, а павадыром меньшэвікоў быў Мартоў...



Перон Віленскага вакзала ў Мінску.

## Маскоўскія падзеі

Большэвіцкая стрэляніна пашкодзіла Успенскаму Чудаваму монастыру і іншым будынкам. Адна бомба трапіла ў будынак меськай думы, але значнай шкоды не зрабіла. Павыбівано многа вокан і папсаваны муры. На пачатку вайны пачалі ўцякаць з Масквы. Дзе-хто пакінуў Маскву назаўсюды.

## Петраградскія падзеі

Рожніца паміж падзеямі 3–4 ліпня і цяперашнімі тая, што тагды да паўстання большэвікоў больш прычыняліся рабочыя, а цяпер салдаты і матросы. Паўстаньне можна сьмела назваць вайскова-прэторыянскім. Зімовы палац абстрэліваўся, але страты нівялікія. Былі грабункі гістарычнага дабра.

Тэлеграпнае агенство ў Маскве ні дае тэлеграм газэтам. Усе служачыя пакінулі агенство, ні хочучы працаваць з большэвікамі. Ва ўсіх дзяржаўных інстытуцыях пануе саботаж. Большэвікі пагражаюць чыноўнікам звольненнем з пасадаў і адпраўкаю на фронт, але пагрозы ні палохаюць.

## У Мінску

Па загаду ваенна-рэвалюцыйнага камітэту (большэвіцкаго) арыштован у сваёй кватэры камісар Заходняга фронту В.Жданаў. Гарадзкая Дума протэставала.

У Мінску гэтак сама ўлада перайшла да большэвікоў. Ваенна-рэвалюцыйны камітэт вытрэбаваў у Мінск 3 броніраваных аўтамобілі. Па тратуарах сланяюцца салдаты с штыкамі, але ў горадзі спакойна. Польскія войска, што стаяць у Мінску, заявілі, што яны трымаюць нэйтралітэт, але будуць бараніць мірных людзей ад нібезпекі.

6-га лістападу толькі што абраны губэрнскі камісар І.Метлін злажыў сваё поўнамоцтво. Гэтае самае зрабіў і памоцнік губ. камісара К.Дэмідзецкі-Дэмідовіч і ўся калегія камісароў. Усе справы камісарыяту пераданы часова мінскаму павятоваму камісару Міхельсону.

Такім чынам, на Міншчыні цяпер німа ніякай губэрнскай уласьці. Абраць новаго камісара трудно, бо і губ. «Совѣтъ», маючы право на абранне камісараў, падаў у адстаўку.

Тым часам, ваенна-рэвалюцыйны камітэт прызначыў сваіх камісараў; С.Бернсон — па справам зносін з арганізацыямі і ўстановамі; па справам ваенным і гарнізону г.Мінска — Я.Кольмановіч, пры штабі фронту — С.Шчукін.

Генэрал Балуев паведаміў, што ён прызнае ўласьць ваенна-рэвалюцыйнаго камітэту Заходняга фронту.

## Мінская Гарадзкая Дума

6-га лістапада на думскае пасядзэнне прышло шмат публікі. Гласныя былі ў поўным зборы. Развважаўся бягучы момэнт, падзеі апошняга часу цікавілі ўсіх. Старшыня Думы А.И.Вайнштэйн робіць даклад аб рабоці Камітэту Спасенія Рэвалюцыі. Камітэт працаваў апошнімі днямі натта інтэнсіўна. Згода паміж Камітэтам і С.-Р. і С.Д. была нішчырая. Прэдстаўнікі Рады р. і с.д. ні раздзелялі паглядаў большасьці камітэту і стараліся гэта падкрэсьліваць. Умовы захавання нэйтралітэту выпоўняліся строга; войско с Заход. фронту ні пасылалося ні на Петроград ні на падпамогу большэвікам, але К-т ні мог супыніць перавозкі войск на Петраград з другіх фронтаў. Затым паўстаў канфлікт на другом грунці. Большэвікі, 27-го кастрычніка захапіўшы ўладу, забралі гэтак само і аружжо і ні гледзючы на патрэбаванне К-ту, адмовіліся вярнуць яго назад. Большэвікі заявілі, што калі хто паважыцца прымусам адабраць у іх аружжо, дык «Минск будет сметен артиллерией».

## Вайна

Расійскі фронт. На расійскім фронці за ўвесь час паўстання, з 24-га кастрычніка па 7-е лістапада ніякіх баёў ні было, калі ні лічыць таго здарэння, што с першых дзён паўстання немцы ўчынілі нівялікі наступ пад Баранавічамі і забралі пярэднія нашыя акопы. Траплялося братанне паміж салдатамі на Дзьвінскім і іншых напрамках, але пастаянна перапынялося нашым артылерыйскім агнём.

*№ 29, 14 лістапада*

## Хто робіць пагромы на Беларусі?

Начальнік штаба главнакамандуючаго у тэлеграмі на імя Мінскаго губ. камісара зазначае, што аграрныя ніпарадкі, пагромы, грабежствы і гвалты чыняцца салдатамі. Усе, хто добра знаёмы з вёскаю, сьведчаць, што нашы сяляне самі ніколі ні адважыліся-б на такія злачынства. І цяпер яны толькі карыстаюць с пагромаў, а самі ні ушчынаюць.

## Пагромы ў паветах

У Мінск штодня надыходзяць весткі аб пагромах у паветах. На пачатку лістападу разгромляны і часткаю папаляны маёнткі: «Глінін» на Барысаўшчыні, «Грушына» на Ігуменшчыні, «Слабодка» на Барысаўшчыні, «Труханы» на Новагрудшчыні, «Тарахомск» на Піншчыні, «Калюніца», «Крушчына», «Камокі» на Ігуменшчыні. У некаторых выпадках пагромы канчаліся гвалтоўніцтвам над гаспадарамі. Разгромы рабілі салдаты і сяляне, разгрязмілі маёнтак «Нарцэвічы» на Ігуменшчыні г. Чапскага.

По апошнім весткам у Ігуменскім павеці ідуць сплашныя пагромы, разгромы і грабежствы. На Барысаўшчыні разгромлены маёнткі: Зарэччо, Лісін, Бароўляны, Бузонкі, Казіміраво, Скуплін і др.

Па наказу глаўнакамандуючаго на Ігуменшчыну і Барысаўшчыну паслалі войско.

## Покліч да Беларускае Рады

Слуцкі паветовы камісар зьвярнуўся да Рады з гэтакой тэлеграмаю: «Становішчо у павеці труднае. Прышлы элямэнт з Валогды, Вяткі, Костромы і інш. м. уселякімі абецанкамі верадуюць маласьведомыя, а то і саўсім нісьвядомыя масы. Пачаліся пагромы маёнткаў салдатамі, разгромляны хвальбаркі: Малево, Альба і Робертаво, што каля Нясьвіжу. З Слуцкае Рады с. і р. дэпутатаў павыходзілі ўсе мейсцовыя людзі, прэдстаўнікі усіх соцыялістычных партый, засталіся большэвікі. Яны склікалі т. з. селянскі зьезд, нівядома праз каго дэлегаваны. На гэтым зьездзі ухвалено арыштаваць камісара Астроўскаго, начальніка міліцыі Асьвецімскаго і др. ўсіх сябрукоў беларуск. сацыяліст. грамады. Покі што мы ні арыштаваны і пастановам безадпаведальных людзей ні скарымся, калі ні будзе ужыта фізычнае сілы. Наша думка: Вялікая Беларуская Рада павінна нібаўна узяць уладу ў краю у свае рукі, бо на праціўны выпадак, знішчыцца усё культурнае багацце краю.»

## Дыктатура Леніна-Троцкага

Інтэрнацыястычная «Новая Жизнь» і ліваэсэраўскае «Знамя Труда» згодна тлумачаць раскол сярод большэвікоў і кажуць, што гэта разгартае новую страніцу у расійскай гісторыі — страніцу дырэкторыі Леніна і Троцкага. Гэта ні дыктатура «Совѣтов», але і ні дыктатура большэвіцкае партыі. За Ленінам і Троцкім, апрач нішчаснага Луначарскаго, німа больш ніводнаго дзеяча, імя каторага хоць што-небудзь гаварыло-б краю. З імі адна падашуканая, асьлепленая абецанкамі маса, каторая зьменшаецца с кожным днём, павэдлуг таго, як перад ёю расчыняецца сэнс авантуры.

Дыктатура большэвікоў ні можа пратрымацца доўга. Новая дыктатура ужо ні партыі, а асобаў, ставіць у агромністую нібезпеку усе заваёвання работніцтва і сялянства. Мы ужо бачылі да якіх скуткаў прывела дыктатура Керэнскага. Дыктатура Леніна і Троцкага прывядзе да поўнага знішчэння усіх нашых вольнасьцяў. Трэба памятаць, што дыктатура варочае нас к царызму. У адказ на тэрор, каторы прымушан будзе рабіць Ленін, пойдзе адказны тэрор. Гэта ніухільна будзе, бо гвалт выклікае гвалт.

## Арэшт В.Пурышкевіча

Арыштован вядомы манархіста Пурышкевіч з братамі. У яго адабралі ліст ад генэрала Каледзіна. Кампанія Пурышкевіча рыхтавалася пасадзіць на царство цара. Згавор шырока быў арганізованы.

Пурышкевіч арыштован на кухні у хвартусе і лёкайскай вопратцы. Яго пазналі па панскіх камашах. Даведаўшыся, што прышлі салдаты яго арыштаваць, ён пераапрануўся у вопратку лёкая і доўга сьвяціў салдатам і паказваў, што трэба, покі тыя рабілі обыск у яго кватэры. Ніхто тагды ні мог яго пазнаць і толькі нарэсьці знайшлі яго на кухні.

## Скуткі большэвіцкаго паўстання

Паўстаннем у ноч з 24 па 25-го кастрычніка большэвікі скінулі каоліцыйны, напоўсоцыялістычны ўрад і забралі ўладу ў свае рукі, утварыўшы т. званае «Рабочее и крестьянское правительство.». Разумеяцца, што гэта байкі, калі большэвікоў называюць здраднікамі і нямецкімі шпігамі. Такімі байкамі і ганебнымі плёткамі хітрыя людзі звыклі палохаць дурных і сквапных на таемныя гаворкі грамадзян. Такія людзі гатовы распусьціць чуткі, што большавікі, заміж гарэлкі, пьюць кроў і закусваюць маленькімі дзецьмі...

З большэвікамі можна і трэба змагацца ў наш нібязпечны час усімі заходамі, але бэсьціць людзей і плясьці на іх уселякую брыдоту — ні гожа; гэта значыць — пляміць самых сябе. З большэвікамі трэба змагацца дзеля таго, што яны рыхтуюцца завесьці ў дзяржаві такі грамадзянскі лад, да каторага людзі яшчэ ні дарасьлі. Уводзіць у нас, пры нашай гаспадарскай і грамадзкай адсталасьці, соцыялістычны лад, — гэта ўсё роўна, каб хто захацеў з малога хлопца раптам зрабіць дзяцюка ды стаў-бы цягнуць яго за вушы ўверх. Разумеяцца, апрач калецтва, з гэтаго нічога-б ні вышло. А тым часам бальшавікі робяць нешта падобнае з дзяржавай расійскаю, і мы бачым, што скуткам іх зоўчаснай чыннасьці пабольшваецца безлад, калатніна і заніпад, хоць яны шчыра жадаюць дабра працоўнаму народу, але гэтак, як шкадавала адна жаласьлівая бабка свайго хвораго на тыфус унука. Унук плакаў ды ўсё прасіў даць яму бульбы, каторае пры тыфусу ні можна есьці. Бабуля зьмілавалася ды дала, а ўнук зьеў ды памёр...

*№ 30, 11 лістапада*

*Публікацыя*
**Віктара ТАМАШЭВІЧА**

